facebookwkhpilnemxj7asaniu7vnjjbiltxjqhye3mhbshg7kx5tfyd.onion
(2022-11-15)

# (14) Facebook

---

БЛЯСК І МІЗЭРЫЯ ФЭЙСБУКУ: АБСАЛЮТНАЯ СВАБОДА І КАЗУС ВАНДЫ МАРЦІНШ ДУШ РЭЙШ

У дажджлівую восеньскую непагадзь, чакаючы прывід ковіда, у вольны час людзі з універсітэцкай адукацыяй і без яе перамяшчаюцца ў віртуальны свет сеціва. ФБ пакуль – найбольш прыдатная і хуткая пляцоўка для камунікацыі.

І радасць і гора ФБ – абсалютная свабода. Тэкст можа быць апублікаваны без тэзісаў, антытэзісаў і лягічных прэдыкатаў. Спрэчкі могуць адвандраваць далёка ў бок ад задумы і пасылу аўтара нататкі. Сэнсу (новага) можа і не быць. Правапіс – які душы заўгода. Кожны адваёўвае сабе дзялку і кола далікатных сяброў, якія ставяць толькі падабайкі: ЛІЛЕЮ МЛЯВЫ ПЛЁС ЛЮЛЯЕ …

Цікавосткі: Як кажуць, nomina sunt odiosa …

Вядомая беларуская паэтка, перакладніца і празаік, апісваючы залёты і любошчы Адама Міцкевіча, адваёўвае сабе пляцдарм новага іранічнага інтэрнэт-стылю, называе Міцкевіча дзеля эканоміі плошчы і дэсэкралізацыі мітаў проста МІ, выпрацаваўшы сваю МАР-МАР-МАТ-МОВУ... Мар-Мар = пачатныя літары імя і прозвішча, МАТ=мат (спрэс расейскі). Народу падабаецца. Я таксама смяюся і радуюся лёгкаму стылю.

Цікава, як бы яна апісала загадку паездкі сп. Мі на расейска-турэцкі фронт на грошы Ракфэлераў і як яна ўяўляе псіхалагічна спевы Міцкевіча каля “камяня філарэтаў”?

Або: Падобна, што вядомаму мастаку, пісьменніку і адміністратару сайту СНЫ, амаль штодня мрояцца ў стылі presque-cubisme чэлясы і похвы, якія ён на высокім мастацкім узроўні выяўляе на сваёй стужцы, а ”выбітны”, “культавы” беларускі філёзаф, ЯКОГА ЯК БЫ І НЯМА, дэфінуе яго як ХРАНІКЁРА ЭПОХІ.

Какое время на дворе, таков Месія … Рыфмуецца са словам “Россия» ў А. Вазнясенскага.

Або: Падобна, што нашы беларускія “мальцы”, як сапраўдныя “падымальнікі пінгвінаў” (алюзыя на вядомага гісторыка, паэта і празаіка) ідуць насустрач трэнасу нерыфмаванай “слупковай” паэткі Валянціны Аксак, якая ў эпіграфе да нізкі вершаў “Евіны дочкі” (гл. папяровы Дзеяслоў 3’20/106 ) бядуе, што “…як шкада, / што ў нашых шыротах/ няма афіцыйных дамоў / для вясёлых дзяўчат ….

Дарагія паэткі, няма патрэбы бедаваць і рабіць экскурс у казачныя прыстанкі старажытнагрэцкіх дзяўчат і ў гамбурскае чэрава ласкі і мілавання ( πόρνη). Глядзіце свабодную пляцоўку сноў і мройных выяваў пра інь і янь на беларускіх стужках …

Для ачышчэння душы і ўмацавання сваёй абранасці да адчування болю за свой вылюднелы, забраны ды вылюднены край ёсць у нас чыстыя сунічныя паляны …

КАЗУС ВАНДЫ МАРЦІНШ ДУШ РЭЙШ

Ванда Марцінс душ Рэйш – выспа чысціні і цноты, гармоніі рымаў, рытмаў і родных тутэйшых слоў. 25 гадоў вандровак па далёкіх краінах з морскім паветрам і тэмпераментам, натуральнымі ненасыпнымі цяснінамі , вадаспадамі і каралеўскай поштай, не ўсмерцілі ў ёй любоў і чуйнасць да роднага слова…

Я сам, грэшны, займеў сантыменты да паэзіі сп. Ванды. Нацешыўся ўволю і нагбом ёйнымі вершамі і наставіў падабаек ў стылі Тацяны Гаранскай (“Вельмі!”) і нават зрабіў спробу выказацца на форуме ФБ у выглядзе двух ляўдацый, апошняй з якіх была нататка “ВЕЛЬМІ Ж УЖО ПРЫЕМНА ПІСАЦЬ СВАІМІ, А НЕ ЧУЖЫМІ СЛОВАМІ …”

(цытацыя аўтаркі з форуму ”Слова – песня Віленскага краю”), дзе я змясціў сп. Ванду ў адзін відэашэраг з Рыгорам Барадуліным.

Замест сухога афіцыйнага слова ГРАБЛІ з ТСБМ сп. Ванда ўжыла мясцовае ГРАБЕЛЬ.

Захоплены паэзіяй, калі шчыра, я быў трохі падступны ў адносінах да вельмі карэктнай рэплікі прафесійнай паэткі, сяброўкі Звязу беларускамоўных пісьменнікаў сп. Галіны Каржанеўскай: трэба імнуцца прытрымлівацца нормаў літаратурнай мовы. Што нельга абысціся без дыялектнага ГРАБЕЛЬ, замест “граблі” ?

Замест таго, каб лёгка пажурыць сп. Ванду, я з усім сваім імпэтам узгадаў “АГЛАБЕЛЬ” Вінцэся Мудрова і пусціў слязу з нагоды таго, што мала ў нас засталося носьбітаў жывой мовы, а сп. Ванда – само ўвасабленне народнага духу. Я, фактычна, маніпулятыўнаператварыў недахоп у высокую вартасць і … набраў больш за сотню галасоў падтрымкі.

Я сам некалі рашуча выступаў супраць дублетных рэгіяналізмаў у сінанімічных радах звычайных прадметаў наваколля, раслін, жывёл і г. д.

Тую самую КАНЮШЫНУ, якую, паглядаючы на дзяўчыну, касіў усім нам вядомы ЯСЬ, называюць яшчэ ў 4-5 варыянтах ДЗЯЦЕЛІНА (В.Адамчык), “ДЗЯТЛАВІНА” (Л. Андзілеўка), “ДЗЯТЛІВІНА” (Р. Барадулін), ДЗЯЦЕЛЬНІК (К. Чорны), то трэба з гэтым нешта рабіць.

А тут быў … “ГрАбель”. Цешачыся талентам сп. Ванды, я “завязаўся, як вужака, на вузёл” і выказаў мройнае меркаванне, што, магчыма, аўтарка, паэтычна абнімаючы грабавільна, сумуе -- амаль па Фройду --, па сваім колішнім мужчынскім сябру, чые ступакі хадзілі калісь па зарослых сцежках цяпер вылюднелага хутару…

Дзейнічае прынцып беларускай сціпласці, што плаўна перацякае ў ФБ-кампліментарнасць (”Вельмі!).

Так ствараюцца “выбітныя” і “культавыя” творцы.

Гэта я не пра сп. Ванду Марцінс. Яна цуд. Як яна паэтычна незабывальна (бо рыфмавана!) намалявала сцэну шаткавання (?) капусты, віленскіх храмаў, зімовых і летніх ландшафтаў свайго памежжа трох народаў, якой прыгожай беларускай мовай пераклала з літоўскай мовы на беларускую “Літоўцы ля мора Лапцевых” … Як там цёпла ўзгадвае літоўская аўтарка Даля Грынкявічутэ беларускую дзяўчыну Франю, самую светлую постаць сярод ссыльных ГУЛАГА…

Я асабіста спадзяюся, што сп. сп. Ванда, дай Бог, дастане з сэрца уражанні, ландшафты, пахі, галасы сяброў з Ірландыі, Брытаніі, Партугаліі, Бразіліі. Як насельнікі-знаёмцы з тых краёў зашавеляцца ў паэтычных радках шматмоўнай літоўска-беларускай Ванды з дзявоцкім прозвішчам Ожэль?

ДЗВЕ ПАДЗЕІ, ЯКІЯ МЯНЕ НЕПРЫЕМНА ЎРАЗІЛІ …

Апошнія тры дні я з розных прычын не заходзіў у стацыянарны кампутар і чытаў у тэлефоне стужку падзей толькі па дыяганалі. Аднак для сябе зафіксаваў увагу на двух здарэннях.

Натрапіў на пасаж з посту пісьменніка, майго земляка і аўтара добрых тэкстаў, лаўрэата літаратурных прэміяў такую дзіўную марфалагічную фігуру: “Дзякуючы хадайніцтву Кацярыны БандарэнЦЫ …” (імя зменена).

Такая форма роднага склону скланяльных паводле тарашкевіцы жаночых прозвішчаў на “-КА” з невядомых прычын, як пошасць, набірае сілу і сустракаецца ў мове вельмі паважаных беларусаў.

У галаве напісалася нататка: МАРФАЛОГІЯ – ВЫШЭЙ ЗА БОГАДУХНАВЕННАСЦЬ (гаварылі доўга з земляком у прываце). Думаю, у хуткім часе напішу нататку, як ФБ разбурае якасць тэкстаў, магчыма, з канкрэтнымі прыкладамі. І ў асобаў з ВНУ-адукацыяй, і ў вядоўцаў праектаў, і ў экспертаў, не гаворачы пра шараговых сяброў суполак.

“Давайце жить, во всём / друг другу потакая,/ тем более, что жизнь,/ -- короткая такая” …Гэта ж паэтычныя метафары, а не правапіс і

лексічныя значэнні, ці дапасаванні дзейніка да выказніка, ці дапасаванне назоўніка да лічэбніка 2, 3, 4, ці суфіксы дзеепрыметнікаў ..

Другая падзея: збянтэжыла звыклая лавіна лайкаў на чарговы верш Ванды Марцінс “ВЫЛЮДНЕНЫ КРАЙ”. Каля 120 падабаек, здаецца. Было гэта 11.11. б.г. Мне падумалася, што гэта выпадкова пастаўлены чарнавік, “рыба”, накід, макет …

Упершыню за апошнія 2 гады (я ў ФБ з 2020г) я не паставіў падабайку сп. Вандзе Марцінс. Рэч жа не пра маю асобу. Я – проста чытач. Не крытык. Не хачу разбіраць сэнс, суфіксацыю назоўнікаў, незвычайных словаў, ужыванне адной акалічнасці ў якасці дададнага сказа, што магчыма ў той жа ангельскай мове, марфалагічна-сінтаксічныя спалучэнні…

Я пісаў сп. Вандзе на прыват пра сваё уражанне. Мяне здзівілі традыцыйныя дзясяткі падабаек і маўчанне добрых стылістаў сярод сціжмы прыветных лайкаў. . Гэта – непаразуменне. Сп. Ванда, падобна, стамілася пасля вандроўкі на могілкі родных на Дзень усіх памерлых, стоячы 16 гадзін на літоўска-беларускай мяжы.

Можа, сп. Ванда правярае на зуб сваіх сяброў, як у вядомай показцы пра голага караля… Цікава, што ў раі падабаек фігуруюць імёны вельмі патрабавальных сяброў ФБ.

Вінцук Вячорка, Юрась Пацюпа, па-мойму таксама ўхвалілі публікацыю . Апошні толькі заўважыў, што у яго адзін верш пішацца за паўгода, і не варта сп. Вандзе бедаваць, што “дзень сцёрла, лапці здзёрла і не паспавядалася”. Стылёвая прыбабунька мая. Сэнс – пацюпаўскі.

Няблага было б калі-небудзь абмеркаваць ці то ў суполцы “Толькі пра мову” ці то “Толькі пра літаратуру” лексічны збор Алега Мінкіна. Заслугоўвае ўвагі ягоная заўвага наконт таго, што да не вельмі вядомых лакальных словаў ці наватвораў варта даваць тлумачэнні.

Мне асабіста вельмі падабаецца, напрыклад, аўтарская мова Вінцэся Мудрова. Але я, на жаль, будучы вельмі ўважлівым і досыць падрыхтаваным чытачом, не заўсёды знаходжу акрэсленае поле семантыкі ўжытых у тэксце словаў.

Спадзяюся, я быў не вельмі катэгарычны і злы…

На фота: каля "Камяня філярэтаў" злева направа -- Вінцук Вячорка, Пётра Садоўскі, Валер Мазынскі. Гадоў 15 таму?